НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# Ці абароніць Канстытуцыйны Суд беларускую мову?

"Народная Воля" інфармавала сваіх чытачоў аб тым, што рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі камітэт" звярнулася ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь з лістом па пытаннях беларускай мовы. І вось стала вядома, што атрыманы адказ з Сакратарыята вышэйшай судовай інстанцыі краіны. Што з яго вынікае? А тое, што Канстытуцыйны суд прыступіў да вывучэння звароту БХК.

Гэта станоўчы момант. І звязаны ён перш за ўсё з тым, што 17 красавіка 2014 года ўступіў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь "Аб канстытуцыйным судаводстве" (далей — Закон). Ён змяніў раней дзеючую рэдакцыю Закона "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь" ад 30 сакавіка 1994 года.

Новы Закон вызначыў асноўныя прынцыпы канстытуцыйнага судаводства, упарадкаваў працэдуру вядзення судаводства па асобных катэгорыях спраў, аднесеных да кампетэнцыі Канстытуцыйнага Суда, удакладніў палажэнне аб правамоцным складзе суда ў судовым пасяджэнні, правах бакоў і іншых удзельнікаў працэсу, аб судовых дакументах, працэсуальных тэрмінах, судовых выдатках і рашэннях.

Асобы інтарэс выклікае новая кампетэнцыя Канстытуцыйнага Суда, якая дазваляе ініцыяваць судаводства аб ліквідаванні ў нарматыўных прававых актах прабелаў, выключэнняў у іх калізій і прававой нявызначанасці. Правам звароту ў Канстытуцыйны Суд для распачынання вытворчасці па справе ўпершыню надзелены суб'екты, не пазначаныя ў ч.4 арт.116 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Да іх адносяцца: дзяржаўныя органы, іншыя ўстановы, а таксама грамадзяне (іх грамадскія аб'яднанні) і індывідуальныя прадпрымальнікі (ч.1 арт.158 Закона). Парадак такіх зваротаў урэгуляваны заканадаўствам аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, таму не спатрэбілася ўнясення змен і дапаўненняў у дзеючую Канстытуцыю. Вытворчасць па справе можа быць распачата Канстытуцыйным Судом і па ўласнай ініцыятыве (ч.2 арт.158 Закона).

Трэба звярнуць увагу на тое, што дадзены від ажыццяўлення канстытуцыйнага судаводства ў парадку наступнага кантролю не падразумявае праверку канстытуцыйнасці нарматыўнага прававога акта. Тут маецца на ўвазе ўстанаўленне наяўнасці ў нарматыўных прававых актах прабелаў, калізій і прававой нявызначанасці. Устанавіўшы такія акалічнасці, Канстытуцыйны Суд можа прымаць рашэнне пра справе. У рэзалютыўнай частцы выкладаецца выснова аб наяўнасці прабелаў, калізій і прававой нявызначанасці, а таксама фармулюецца прапанова канкрэтнаму дзяржаўнаму органу, службовай асобе аб неабходнасці ліквідавання ў гэтых актах у адпаведнасці з іх кампетэнцыяй прабелаў, выключэння з іх калізій і прававой нявызначанасці (ч.2 арт.160 Закона).

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у сваіх штогадовых пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці ў краіне і ў рашэннях па канкрэтных справах не раз адзначаў важнасць захавання прававой вызначанасці. Так, у пасланні 2010 года падкрэслівалася: "Агульнаправавы прынцып прававой вызначанасці непасрэдна вынікае з замацаванага Канстытуцыяй прынцыпу вяршэнства права (артыкул 7)". Важна адзначыць, што "прынцып прававой вызначанасці, будучы неад'емным элементам вяршэнства права, выступае як у заканатворчай, так і ў праваприм яняльнай дзейнасці ў якасці неабходнай гарантыі забеспячэння эфектыўнай абароны правоў і свабод грамадзян" (з паслання КС 2012 г.). Ён падразумявае лагічную ўзгодненасць прававых нормаў у сістэме прававога рэгулявання, іх яснасць, дакладнасць і несупярэчлівасць. І, насупраць, няяснасць і нявызначанасць нарматыўных прававых актаў, іх супярэчлівасць і двухсэнсоўнасць могуць прывесці не толькі да парушэнняў правоў і законных інтарэсаў грамадзян, але і да злоўжыванняў з боку тых, хто прымяняе закон.

Выкарыстоўваючы новы Закон, Беларускі Хельсінкскі камітэт падрыхтаваў і накіраваў у Канстытуцыйны Суд зварот аб неабходнасці ліквідавання прабелаў, выключэння калізій і прававой нявызначанасці ў актах заканадаўства аб мовах. Вось некаторыя з асноўных аргументаў, прапанаваных для абмеркавання суддзям Канстытуцыйнага Суда.

Беларуская мова, якая мае статус дзяржаўнай, з'яўляецца ў Беларусі роднай мовай большасці насельніцтва. Так, паводле апошняга перапісу насельніцтва 2009 года, каля 84% грамадзян краіны з'яўляюцца па нацыянальнасці беларусамі. Значыць, Рэспубліка Беларусь — дзяржава монанацыянальная. З агульнай колькасці насельніцтва беларускую мову роднай назвалі 5.058.402 чалавекі, альбо 53,2 працэнта ўдзельнікаў перапісу.

Зыходзячы з гэтых рэалій, дзяржава павінна быць скіравана на выкарыстанне ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця перш за ўсё беларускай мовы, адначасна не перашкаджаючы ўжыванню другой дзяржаўнай мовы — рускай. Дарэчы, валоданне беларускай мовай з'яўляецца адным з абавязковых кваліфікацыйных патрабаванняў паступлення на дзяржаўную службу (падпункт 1.3 часткі 1 арт.26 Закона "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь").

Аднак пасля ўвядзення ў нашай краіне двухмоўя (1995 г.) мы фактычна назіраем, што ў навучанні ў дзіцячых садках, школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, як і ў навуцы, мастацтве; дзяржапараце, арміі, справаводстве і судах, усёй сістэме праваахоўных органаў, у дзяржаўных СМІ, у тым ліку электронных, бытавым абслугоўванні і г.д. беларуская мова паўсюдна выцясняецца рускай.

Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы ў лютым 2014 года Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь апублікаваў дадзеныя аб колькасці беларусаў, якія навучаюцца на роднай мове: у дашкольных установах такіх усяго каля 45 тысяч; у школах вывучаюць прадметы па-беларуску каля 142 тысяч школьнікаў; у сярэдніх спецыяльных навучальных установах — каля тысячы чалавек; у ВНУ — 600 студэнтаў.

Такім чынам, толькі 9,7% ад агульнай колькасці навучэнцаў — грамадзян краіны Беларусь — вучацца па-беларуску. Жахлівыя дадзеныя! Адзначым, у нас дагэтуль няма ніводнай вышэйшай установы, дзе навучанне вядзецца па-беларуску. А такая сітуацыя, безумоўна, уплывае на выбар бацькамі мовы навучання для сваіх дзяцей.

Адсутнасць паўнавартаснай сістэмы беларускамоўнай адукацыі на ўсіх узроўнях, асабліва ў ВНУ, ставіць розныя групы жыхароў краіны ў няроўнае становішча ў залежнасці ад мовы зносін.

Такія падыходы парушаюць прынцып роўнасці (арт.22 Канстытуцыі), прыводзяць да дамінуючага ўжывання рускай мовы за кошт беларускай і могуць быць ацэнены як дыскрымінацыйныя.

Не закранаючы палітычных аспектаў развіцця двухмоўя, трэба звярнуць увагу на яго прававы бок. Аналіз правапрымянення заканадаўства аб мовах сведчыць, што ў ім маюцца прабелы, юрыдычныя калізіі, прававая нявызначанасць. Адна з карэнных прычын практыкі, якая складаецца ў нас з выкарыстаннем моў, бачыцца ў Законе аб мовах — у выкарыстанні ўнутрана супярэчлівага злучніка "або". Так, у Законе, які змяшчае 34 артыкулы, дадзены злучнік у розных інтэрпрэтацыях ("на беларускай і (або) рускай мовах", "на беларускай або рускай мовах", "на беларускай ці рускай мовах" і г.д.) сустракаецца 40 разоў.

Пры гэтым Закон, гарантуючы роўнасць моў, не вызначае прававыя механізмы, якія забяспечвалі б неабходны баланс у выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моў, прыярытэтнага вывучэння і выкарыстання мовы тытульнай нацыі з улікам гістарычных, дэмаграфічных і лінгвістычных асаблівасцяў развіцця Беларусі як незалежнай дзяржавы.

Такі прабел у заканадаўчым рэгуляванні прыводзіць да сітуацыі, калі на практыцы ў шматлікіх сферах дзяржаўнай дзейнасці і грамадскага жыцця, спасылаючыся на злучнік "або", безальтэрнатыўна выкарыстоўваецца руская мова. Толькі ў вельмі нешматлікіх сферах дамінуе беларуская, напрыклад, на геаграфічных указальніках (гл. Закон ад 16.11.2010 "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў").

І ў гэтай сітуацыі трэба звярнуць увагу на тое, што правапрымяняльнікі ніяк не жадаюць зразумець, што Закон аб мовах не абавязвае шараговага грамадзяніна валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі. Гэта выцякае з сэнсу Закона аб мовах. Права выбіраць мову зносін мае сам грамадзянін (арт.3 Закона аб мовах). Гэта павінна быць дакладна замацавана ў дзеючым заканадаўстве, каб не дапускаць двайнога тлумачэння.

## На якія прыклады такой практыкі Вы можаце спаслацца?

У сваім штодзённым жыцці многія сутыкаюцца з неабходнасцю прымянення тых ці іншых формаў заканадаўства. Пры зваротах у дзяржаўныя органы, суды ці да службовых асоб нам неабходна абгрунтаваць правільнасць (законнасць і абгрунтаванасць) сваіх патрабаванняў альбо, наадварот, аспрэчыць тую ці іншую прававую пазіцыю, якая змяшчаецца ў адказе, прынятым рашэнні. Аднак грамадзяне, якія выкарыстоўваюць ці імкнуцца выкарыстоўваць ва ўсіх сферах свайго асабістага і грамадскага жыцця беларускую мову, вельмі рэдка сустракаюць афіцыйна апублікаваныя, а значыць, і даступныя ім нарматыўныя прававыя акты на роднай беларускай мове.

У эталонным банку прававой інфармацыі, дзе пазначана каля 200 тысяч такіх актаў, толькі 3,1% нарматыўнай дакументацыі — на беларускай мове. Яны датычаць актаў аб узнагароджаннях дзяржаўнымі ўзнагародамі і ганаровымі граматамі, аб кадравых пытаннях, а таксама аб перамовах па праектах міжнародных дамоў, іх падпісанні і іншага. У той жа час няма амаль ніводнага нарматыўнага акта аб правах і свабодах грамадзяніна на беларускай мове.

Гэтая найважнейшая сфера функцыянавання дзяржавы даказвае парушэнне прынцыпу роўнасці (арт.22 Канстытуцыі), па сутнасці, дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да тытульнай нацыі ў галіне мовы. Яна, у прыватнасці, не забяспечвае роўны доступ беларускамоўным грамадзянам да адміністрацыйных і судовых працэдур.

Атрымліваецца, што заканатворцы пры выкарыстоўванні злучніка "або" фактычна адмаўляюць у праве карыстацца нарматыўнымі актамі на беларускай мове (за невялікім выключэннем) і такім чынам уводзяць не заснаваныя ў законе абмежаванні для беларускамоўных грамадзян. Чаму перавага зноў аддаецца рускай мове, а не мове тытульнай нацыі? Мяркуем, адказ на гэтае пытанне палягае ў недасканаласці закона.

У адпаведнасці з ч.4 арт.7 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь нарматыўныя акты дзяржаўных органаў публікуюцца або даводзяцца да ўсеагульнага ведама. Названыя канстытуцыйныя патрабаванні карэспандуюцца са зместам ч.2 арт.62 Закона "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь". Таму ўсталяваныя ў арт.7 Закона аб мовах, як і ў артыкулах 54, 62 Закона "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь", правілы іх апублікавання, нам уяўляецца, не адпавядаюць і супярэчаць артыкулам 17 і 50 Канстытуцыі, якія гарантуюць у краіне роўнае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў.

З мэтай пераадолення калізій прававых нормаў лічым неабходным зрабіць абавязковым прыняцце і апублікаванне нарматыўных прававых актаў, якія закранаюць правы і свабоды грамадзян, на дзвюх дзяржаўных мовах. Гэты абавязак дзяржавы павінен быць замацаваны ў законе непасрэдна і адназначна.

Сур'ёзныя цяжкасці і спрэчкі ўзнікаюць па пытанні пошуку балансу для рэальнага забеспячэння раўнапраўя ў выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моў. Такі прававы механізм павінен быць знойдзены і замацаваны ў заканадаўстве. Пры гэтым мы зыходзім з таго, што ў Рэспубліцы Беларусь устанаўліваецца прынцып вяршэнства права; дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства (ч.1, 2 арт.7 Канстытуцыі). Толькі такі падыход можа выключыць чыноўніцкае свавольства па моўных пытаннях.

Такім чынам, варта падкрэсліць: дэклараваная заканадаўствам роўнасць носьбітаў беларускай і рускай моў не забяспечваецца на справе ў практычным правапрымяненні. І не толькі з дапамогай выкарыстання злучніка "або". Прыведзеныя прыклады сведчаць аб відавочных прабелах, калізіях і прававой нявызначанасці.

Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь у сваім адказе на зварот гр. Сафронава П.М. (вых. 01-11/374 ад 27.03.2104) указвае на тое, што "правілы, якія выразна вызначаюць сферу прымянення дзвюх дзяржаўных моў у заканатворчай дзейнасці, адсутнічаюць".

Істотным недахопам Закона аб мовах з'яўляецца тое, што ў ім устаноўлена альтэрнатыўнасць выкарыстання альбо беларускай, альбо рускай мовы, а не абавязковасць выкарыстання абедзвюх моў або мовы, абранай грамадзянінам. Такім чынам, адсутнічае сама прававая сутнасць, дух і літара закона аб абароне прыярытэту правоў грамадзяніна на адну з дзяржаўных моў. І, наадварот, закладзена падстава для няроўнасці і дыскрымінацыйнага падыходу пры выкарыстанні беларускай мовы.

Усталяваная ў Законе варыятыўнасць выбару той ці іншай дзяржаўнай мовы павінна быць накіравана ў першую чаргу на выкананне права грамадзян карыстацца роднай мовай.

Такі падыход вынікае з патрабаванняў, выкладзеных ў п.2.2. Дырэктывы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №2 "Аб мерах па далейшай дэбюракратызацыі дзяржаўнага апарату" ад 27 снежня 2006 года: "Дзяржаўным органам, іх службовам асобам пры прыняцці рашэнняў, якія закранаюць правы і законныя інтарэсы грамадзян, няўхільна выконваць патрабаванні заканадаўства, не дапускаць іх адвольнага тлумачэння і "адсябяціны" пры прымяненні. У выпадку няяснасці або невыразнасці прадпісанняў прававога акта рашэнні павінны прымацца, зыходзячы з максімальнага ўліку інтарэсаў грамадзян". Адсюль бясспрэчна вынікае, што пры выяўленні падобных калізій, прававой нявызначанасці неабходна ўносіць змены ў заканадаўства.

Сёння для ўсіх відавочна, што і дзеючая рэдакцыя Закона аб мовах, і практыка яго прымянення не забяспечваюць усебаковага развіцця і функцыянавання нацыянальнай большасці краіны роднай беларускай мовы. Калі палітыка двухмоўя працягне дрэйфаваць у такім самым кірунку, а выкарыстанне беларускай мовы абмяжуецца вузкабытавымі зносінамі, адпраўленнем рэлігійных культаў, некаторымі сегментамі культуры і мастацтва — мове тытульнай нацыі пагражае рэальная небяспека знікнення.

Такога развіцця падзей мы не маем права дапусціць. Гэтую думку падкрэсліў кіраўнік дзяржавы А.Р.Лукашэнка ў сваім стратэгічным пасланні беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу (22 красавіка 2014 г.). Ён недвухсэнсоўна адзначыў: "Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй". Гэтым, нарэшце, і трэба кіравацца.

Дзяржава павінна прыняць усе меры для забеспячэння рэальнага права грамадзян на родную мову. На дзяржаве ляжыць адказнасць, ці будзе дыскрымінацыйная практыка працягвацца і ўкараняцца, ці яна прызнае гэты факт і ўнясе ў закон неабходныя наспелыя змены і дапаўненні, падмацаваўшы іх эфектыўнымі мерамі па пераадоленні відавочнай няроўнасці ў моўнай сферы, якая склалася.

Мяркуем, што для забеспячэння рэальнай роўнасці моў у першую чаргу неабходна прыняць змены ў заканадаўстве разам з пазітыўнымі мерамі, у тым ліку абавязковай дзяржаўнай падтрымкай іх (фінансы, ільготы, заахвочванні, выхаванне і навучанне кадраў, арганізацыйныя і іншыя меры).

У рашэннях Канстытуцыйнага Суда, у тым ліку і яго пасланнях, неаднаразова адзначалася, што рэалізацыя ў нарматворчасці прынцыпу вяршэнства права і заснаванага на ім прынцыпу прававой вызначанасці мае на ўвазе стварэнне прававой сістэмы, у якой нарматыўныя прававыя акты знаходзяцца ва ўзаемасувязі, узгадняюцца паміж сабой, забяспечваюць яснасць, дакладнасць, несупярэчлівасць і ўзгодненасць палажэнняў.

Прынцып вяршэнства права азначае ў тым ліку паўнату і дакладнасць нормаў аб правах і абавязках грамадзян, узгодненасць іх паміж сабой у розных нарматыўных прававых актах. Знаходжанне ў заканадаўстве прабелаў, калізій прававых нормаў і прававой нявызначанасці прыводзіць да неадназначнага разумення нарматыўных прававых актаў і, як вынік, да супярэчлівай правапрымянальнай практыкі, што аслабляе гарантыі абароны канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян (рашэнне Канстытуцыйнага Суда ад 11 снежня 2013 г. № Р-877/2013 "Аб прававым рэгуляванні парадку вырашэння спрэчак, звязаных з расследаваннем няшчасных выпадкаў на вытворчасці").

Будзем спадзявацца, што Канстытуцыйны Суд прыме станоўчае рашэнне па абароне беларускай мовы. Нацыянальнай мовы. Роднай мовы.

**Гары ПАГАНЯЙЛА,**
**старшыня юрыдычнай камісіі РГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт".**

ДА ВЕДАМА...

## Святло на дачах даражэе

*У Беларусі павышаны тарыфы на электрычную энергію для садоўніцкіх таварыстваў і дачных кааператываў. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі ад 29 жніўня 2014 года. А плаціць за святло дачнікі па новых тарыфах будуць з 13 верасня — пасля таго, як пастанова была апублікавана і ўступіла ў сілу.*

У адпаведнасці з дакументам, тарыфы на электраэнергію таксама павышаны для арганізацый аховы здароўя, якія аказваюць медыцынскую дапамогу ў стацыянарных умовах, пратэзна-артапедычных аднаўленчых цэнтраў, стацыянарных установ сацыяльнага абслугоўвання, рэлігійных арганізацый, арганізацый, што ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду.

Новы кошт 1 кВт·гадз. для гэтых катэгорый складае 818,9 беларускага рубля (раней было 745,9 бел.руб.). Акрамя таго, устаноўлены тарыф для гаражных кааператываў, а таксама кааператываў, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю аўтамабільных стаянак, — на ўзроўні 1467,5 беларускага рубля за 1 кВт·гадз. (да гэтага — 917,2 бел.руб.).

ИМЕЙТЕ В ВИДУ!

## По желанию и за счет собственников и нанимателей квартир

*Специалисты пояснили, какие работы при капремонте дома будут проводиться в квартирах минчан.*

Оказывается, при капитальном ремонте дома в основном меняют только стояки водоснабжения и канализации. Замена системы отопления (труб и батарей) производится только в случае, если ее износ составляет 65% и более. Теплорегулируемые клапаны на радиаторы, позволяющие жильцам собственноручно уменьшать или увеличивать объем теплоносителя и тем самым контролировать температурный режим в квартире, устанавливают при замене системы отопления, сообщили агентству "Минск-Новости" в ГО "Минское городское жилищное хозяйство" (МГЖХ).

Почти все остальное обновляют за счет собственников и нанимателей квартир по их желанию. Это касается и замены санитарно-технического оборудования и подводок к нему (внутриквартирных систем холодного и горячего водоснабжения после запорной арматуры на стояках, а также системы канализации после стояков с раструбами).

Одно из нововведений касается окон.

— С 15 февраля 2013 года введено в действие изменение №3 ТКП 45-1.04-14-2005, в соответствии с которым замена заполнений оконных проемов на изделия с теплотехническими характеристиками (стеклопакеты), отвечающим нормативным требованиям, производится за счет граждан, — проинформировала Валентина Чигирь. — Однако на практике большинство хозяев квартир со старыми окнами отказываются их менять, чтобы избежать финансовых затрат. Вместе с тем в домах, планируемых к капремонту, уже заменено 40—60% окон. Кроме того, согласно статье 97 Жилищного кодекса Республики Беларусь, собственники и наниматели производят за собственные средства замену и ремонт индивидуальных приборов учета расхода электрической и тепловой энергии, газа и воды, а также внутриквартирной электропроводки от распределительного щитка. Эти и другие работы (окраска стен, потолков, радиаторов и труб, оклейка обоями, утепление оконных, балконных и дверных проемов, укладка плитки, замена напольных покрытий) по желанию жильцов может выполнить генподрядная организация или ЖЭС (ЖЭУ) в рамках бытовых услуг населению.

ОБ ЭТОМ — ВПЕРВЫЕ

# Летать на воздушном шаре над Дроздами строго запрещено

*В минувший уик-энд над Минском взмыл 21 воздушный шар. Щурясь, горожане фотографировали небо на мобильные телефоны. Появление в нем шаров восприняли как самый необычный подарок властей на День города.*



Идея запустить в небо редкое для нашей страны украшение принадлежит Белорусской ассоциации авиационного спорта, организовавшей первый Открытый международный чемпионат Беларуси по воздухоплаванию.

Старт чемпионату дали вечером в пятницу 12 сентября. Спортсмены из четырех стран — Беларуси, Украины, Литвы и России — в горнолыжном центре "Солнечная долина", что в микрорайоне "Курасовщина", по очереди поднимали в воздух разноцветные аэростаты. На каждом стоял код страны (EW — обозначение Беларуси), на большинстве — логотипы компаний-участников или спонсоров.

Пожертвования и финансовые вложения в медали со стороны частных компаний давно и успешно практикуют в самых разных странах. Это выгодно: люди бизнеса куда лучше чиновников разбираются в организации успешного процесса, а, поднаторев в зарабатывании денег, вслед за состоянием они могут "сделать" и олимпийские медали. Секрет успеха — финансовые вложения, благодаря которым в стране появляются спортивные секции и проходят чемпионаты. Последний пример — база парусного спорта, что на Минском море. Вложив около пяти миллионов долларов в ржавые вагончики старой спортивной школы, где вместо детей собирались "братки", спонсор возвел на берегу водоема ресторан, гостиницу, помещение для спортсменов, административное здание и марину на 70 яхт. В школе идет подготовка к Олимпиаде, в ресторане отдыхают белорусские и российские яхтсмены-миллионеры.

Шансы на развитие есть и у отечественной авиации: Белорусской федерацией авиационного спорта "рулит" председатель правления группы компаний "А-100" **Александр Центер**. За 20 лет работы на белорусском рынке этот бизнесмен "опутал" Беларусь сетью АЗС и кафе, возвел жилые дома, детский садик и офисные помещения. В 2014 году появился вертолетный клуб "Авиа А-100".

Два ярких вертолета привлекали внимание публики в парке. Желающим предлагали аттракцион — полет над микрорайоном. За 5—7 минут с человека просили 300 тысяч рублей, и, судя по частоте, с которой вертолеты появлялись в небе, денег отдыхающие не жалели.

Деньги с любителей острых ощущений пойдут в копилку, из которой финансируется чемпионат, и это далеко не единственные денежные поступления. Согласно официальным данным, белорусский чемпионат по воздухоплаванию на воздушных шарах поддержали ГК "А-100" и "Аэротур-баллунс". Судя по логотипам крупных белорусских компаний на аэростатах, у мероприятия были и другие спонсоры.

Финансовые вложения оправдываются победами. За полтора часа до полета претенденты на медали собрались для выяснения нюансов чемпионата.

Спортсмены растерянно рассматривали карты, полученные для ориентации в небе.

*"Здесь должна быть сетка с системой координат,* — расстроенно объяснил спортсмен из Гродно **Константин Царик**, *— и масштаб мельче. Но из-за того, что в Беларуси такие карты почему-то считают секретными, воздухоплавателей ограничили. Дали вот это..."*

Участник одного чемпионата мира, четырех чемпионатов Европы, 12 чемпионатов России *"и других, помельче"*, Царик летает с 1998 года. Директор аэроклуба в Гродно, он пользуется определенными преимуществами в виде двух государственных воздушных шаров. Прочие спортсмены шьют или покупают аэростаты за собственные средства. Судя по цифрам, озвученным нашим собеседником, воздухоплавание — дорогое увлечение: в России средняя стоимость аэростата — 30—40 тысяч долларов, в Германии — 50 тысяч евро плюс растаможка в виде 40% от стоимости. *"Наша страна воздушные шары не производит, но пошлины почему-то взимает"*, — голос Константина опять стал грустным.

Разговор прерывает руководитель чемпионата, литовский спортсмен **Тадас Гегявичюс**.

Первым делом спортсменам представляют волонтеров — студентов Академии управления и Института культуры.

*"Посмотрите на их лица! —* призывает Тадас. — *Потом в глаза надо будет смотреть ребятам".*

Руководитель намекает на "карательную" функцию пареньков в желтых жилетках: увидев нарушение, те должны сообщить об этом судьям, которые спишут с участника штрафные баллы.

Возможностей лишиться баллов много — у полетов над столицей много ограничений, которые тут же озвучивает Тадас:

*"Вы ограничены высотой в 3 тысячи футов, что соответствует 1 тысяче метров. Выше нельзя, поскольку работаем в зоне двух аэропортов. Поэтому высоту соблюдайте не только из-за штрафов, но и ради собственной безопасности".*

Четыре красных круга на карте — зоны, пролетать над которыми строго запрещено. Под номером один — Дрозды: даже иностранцам известно, что там живет белорусский президент. Из соображений безопасности закрыт центр города. Чуть позже участники социальных сетей расшифровали потенциальную опасность аэростатов, сообщив, как воздушные шары врезались в их дома и опускались на улицы, останавливая автомобильное движение.

Не исключено, что спортсмены просто-напросто теряли ориентацию: по объяснению Тадаса, *"карты неполные, многие знаки на них не нанесены. Вокруг города и в городе полно высоковольтных линий. Если будете летать над крышами, очень много малых проводов на карте, обращайте на них внимание".*

Контакты с землей, проводом или домом караются штрафом в 500 баллов — при условии, что их заметят волонтеры.

Для страховки спортсмены получили еще одну карту, электронную, разглядывать которую будут с экранов ноутбуков. А составят их в небе на изогнутые доски — только такой компьютерный столик разместится на краю корзины аэростата.

*"Карта эта довольно старая*, — охарактеризовал Тадас электронный вариант, — *но ее можно использовать для полетов. Уяснили?"*

Зал отозвался басистым "да": большинство воздухоплавателей — мужчины. В зале заметили всего нескольких женщин. Как выяснилось из разговора с одной из них (дама была одета в красную майку российской команды "Команданте" с изображением Че Гевары), далеко не все женщины поднимаются в воздух.

Но с гражданкой Украины Оксаной, сидевшей за рулем автомобиля, доставляющего и забирающего воздушный шар после приземления, неожиданно заговорили не о полетах. *"Я из Луганска,* — понимающе улыбнувшись, ответила женщина на вопрос, — *сейчас живу в российском городе Жуковский."* В украинском городе, где сегодня идет война, остались родители. *"Если оформлю гражданство России, у меня заберут украинский паспорт, и я не смогу вернуться к родителям"*.

Мать Оксаны с осколочными ранениями лежит в госпитале. *"Ехала в маршрутке на работу, попала под бомбежку*, — будничным тоном рассказывает Оксана. — *Вынесли два трупа; четверо, среди которых мама, очень тяжело ранены"*.

Риск, связанный с полетом на воздушном шаре, ничто по сравнению с выбором, который должна сделать женщина. Родителям в Луганске нужна помощь, в Жуковском пошел в школу сын. *"Если в Луганске со мной что-то случится, кому нужен мой ребенок?"* — задает Оксана риторический вопрос.

Но Оксана не была бы в команде "Команданте", если бы не умела переключаться. *"20 шаров — это немного для чемпионата страны,* — оценивает она белорусский чемпионат. — *Когда в Великих Луках проходит чемпионат России, собирается до 50 шаров. В 2010 году прилетел даже личный пилот короля Саудовской Аравии!"*

Но вот пора везти шар на площадку. Полчаса — и на глазах, словно гигантские грибы, вырастают аэростаты. Набирая высоту, они медленно пролетают над головами зрителей, не выпускающих из рук фотокамеры и мобильники. *"Сегодня интернет взорвется воздушными шарами!"* — комментирует кто-то, сосредоточенно выкладывая собственное селфи в интернет.

С одного из шаров на город смотрит команданте кубинской революции Че Гевара. *"Por Libertad!"* — без труда читаем большие буквы на шаре. В переводе с испанского это значит "За свободу!".

**Елена АНКУДО.**

ОСТРЫЙ РАКУРС

# Нужны проверочные избирательные участки



Хотя до очередных президентских выборов еще есть время, уже сегодня нужно четко обозначиться с тактикой и стратегией. Я смотрю, одни оппозиционеры за участие в них, другие — за бойкот, третьи еще вообще не определились.

Мнение же команды, в которую я вхожу, — это полноценное, по белорусским меркам, участие. Можно, конечно, полеживать на диване и выставлять себя ярым борцом с существующим режимом, но от этого ему, режиму, ни холодно, ни жарко. Нужно все же идти к людям, открывать им глаза на многие грехи нынешней власти и конкретно тех, кто стоит у ее руля, убеждать электорат в острой необходимости перемен.

Конечно, всем понятно, что если все пойдет по старому сценарию, то конечный результат уже сегодня можно предсказать. Но даже при таких возможных обстоятельствах не нужно опускать руки. Кто, как не оппозиция, может со всех сторон засветить исключительную *"демократичность и прозрачность"* избирательной системы, за которую так ратует небезызвестная госпожа Ермошина и ее подручный господин Лозовик?

В последнее время много говорится о том, сможет ли оппозиция выдвинуть из своих рядов единого кандидата или все закончится конфликтом и каждый маломальский претендент на высокую должность будет мнить себя самым важным и побежит к той же Ермошиной за удостоверением кандидата в президенты. Если сложится именно такая ситуация, то оппозиция в нынешнем составе окончательно похоронит себя.

Я предлагаю другую схему.

Поскольку у оппозиции нет возможностей контроля на избирательных участках по всей стране, то, на мой взгляд, есть смысл поставить вопрос перед руководством страны и ЦИК, чтобы на 2—3 участках в каждой области и в городе Минске избирательные комиссии полностью состояли из представителей оппозиционных структур и независимых профсоюзов. Пригласить представителей посольств и международных наблюдателей. В крайнем случае можно допустить к работе в комиссиях и чиновников из провластных структур, но не более 0,07%, то есть столько, сколько власть ранее допускала в комиссии представителей из числа демократов.

В данном варианте, я уверен, будет полностью исключено надувательство. Но при этом не должно быть "охраны" возле урн. Запретить после окончания рабочего дня вход в помещения, где расположатся избирательные участки, людям в погонах, представителям спецслужб. Пост в коридоре и пост на улице — и охраняйте, ребята!

Урны прозрачные, круглосуточно работают видеокамеры, на пульте контроля оператор, который постоянно наблюдает и фиксирует ситуацию внутри помещения и снаружи.

Также не возбраняется вести видеонаблюдение милиции через свои приборы.

Выведенный из этих 14 или 21 участка процент голосующих, поддержавших того или иного кандидата, практически будет соответствовать общереспубликанским показателям с самой малой долей погрешности.

И если на этих проверочных участках претендент на должность президента страны от власти не наберет наибольшего количества голосов, а на "ермошинских" участках этот показатель, по официальным данным, будет доходить, как и раньше, до 80—90 процентов, то и дурню станет ясно, что выборы сфальсифицированы. Вот тогда и реакция народа будет соответствующей. Особенно если та же оппозиция найдет нужные слова.

Так что, друзья, действуем, а не спим в шапку!

**Александр КОМАРОВСКИЙ, ветеран афганской войны.**

*г.Жодино.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Сто працэнтаў!!!

На мінулым тыдні нашы ўлады вырашылі "окончательно" "прывязаць" кошты на паліва да курса долара. Цікава, а калі па нейкіх неверагодных прычынах долар патаннее, ці стане танней паліва?

Ну праўда ж цікава!

Але я хачу сказаць не пра паліва, а крыху пра іншае. Вясной гэтага года Савет міністраў прыняў пастанову аб 100-працэнтнай аплаце дзяцей у садках. І што маем? 7 верасня, калі прыйшоў за дачкой у дзіцячы садок, выхавацельніца папрасіла мяне, каб я распісаўся вось у гэтым дакуменце.

Падпішаце — і ваша дзіця будзе есці рыбу і запіваць яе сокамі, не падпішаце — што будзе, не ведаю. А як жа быць са 100-працэнтнай аплатай? Грошай, аказваецца, не хапае!. Каб пракарміць дзіця ў садку, патрэбна 110, 120 альбо 200 працэнтаў ад кошту. Мо таксама гэтыя кошты прывязаць да чаго-небудзь? Ну, напрыклад, да юаня, каб не "скрэбці па засеках" (чытай — па бацьках).

**P.S.** Акрамя таго, што ў садку дзяцей кормяць, ім там патрэбна і ўсё вось гэтае. Гэтае "ўсё" прыйшлося набыць і здаць да 1 верасня. Можаце палічыць, колькі гэта каштуе!!!

**Віктар МАЛОЧКА.**

*Салігорск.*



- Блок для рисования ✓
- Цветная бумага ✓
- Цветной картон ✓
- Цветные карандаши 12 шт ✓
- Краски акварельные (гуашь) ✓
- Тонкая кисточка ✓
- Раскраски 2 шт ✓
- Тонкая художественная книга ✓
- Пластилин ✓
- Баночка для воды ✓
- Туалетная бумага ✓
- Салфетки ✓
- Мыло 1 шт ✓
- Детская паста ✓
- Чешки ✓
- Форма на физкультуру (майка, шорты или лосины) ✓
- Обувь на резиновой подошве ~
- Носки
- Носовой платок
- Расческа в чехле
- Вешалки на всю одежду



УВАЖАЕМЫЕ РОДИТЕЛИ!

В целях обеспечения полноценного питания детей и выполнения в полном объеме натуральных норм и по рекомендации Отдела образования, спорта и туризма необходимо привлечение дополнительных денежных средств родителей детей **до 3-х лет в размере – 2 500 руб.** за один день, **детей от 3 до 6 лет – 3000 руб.** за один день с последующим перерасчетом за фактически использованные продукты согласно меню-раскладки.

Благодаря вашим дополнительным денежным средствам дети в течение года получают – соки, свежие фрукты, кондитерские изделия, мясо, рыбу, творог в полном объеме для обеспечения сбалансированного питания.

Надеемся на ваше понимание и согласие на привлечение дополнительных денежных средств на питание и в этом году.

С уважением администрация ГУО «Ясли-сад №»

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Салдату без кандома цяжэй служыць, вядома

***Згодна з дакладам "Аб санітарна-эпідэміялагічнай абстаноўцы ў Беларусі", за год у вайсковых падраздзяленнях распаўсюджана 28 тысяч прэзерватываў — гэта значыць, прыкладна па пяць на кожнага салдата.***

*Заўсёды абавязкаў шмат*
*У камандзіра роты.*
*Найперш — пра асабовы склад*
*Ягоныя турботы.*
*Ва ўсім салдату памагчы —*
*Закон для капітана.*
*І трэба класціся ўначы,*
*І ўстаць патрэбна рана.*
*Вярэдзіцца ягоны клёк,*
*Каб еў салдат на славу:*
*Не нейкі посны сухпаёк,*
*А суп, катлету, каву.*
*Вядома, дбае капітан*
*І рупіцца заўзята,*
*Каб добрым быў душэўны стан*
*У роднага салдата.*
*Калі дзяўчо лістоў не шле —*
*Як кажуць, гладзь ды ціша,*
*Ён засынае на стале —*
*З дакорам дзеўцы піша.*
*Хваліў яго камбат-маёр,*
*Прычым зусім законна:*
*Заўсёды рота як узор*
*Была для батальёна.*
*Ды тут загад прыдумаў штаб:*
*Каб кожны быў шчаслівы,*
*Каб юр салдацкі не аслаб —*
*Раздаць прэзерватывы!*
*Прызнацца, як кашмарны сон*
*Загад для капітана.*
*Таму спярша начальству ён*
*Даводзіў апантана,*
*Маўляў, салдаціку не трэ*
*Ніякага кандома:*
*Што ў сексе тут недабярэ,*
*Ён з лішкам возьме дома.*
*У роце да таго ж, маўляў,*
*Адсутнічаюць геі.*
*Ды адмаўляцца штаб не стаў*
*Ад выспелай ідэі.*
*У роце капітан цішком*
*Бясед праводзіў многа:*
*Маўляў, навошта вам кандом,*
*Нашто перасцярога?*
*Няма з кім вам спатольваць жарсць,*
*Адно — рукою спробы...*
*Дык мастурбацыя не дасць*
*Венерыны хваробы!*
*Але чамусьці рэзультат*
*Быў з тых бясед паршывы.*
*Сярод салдатаў нарасхват*
*Ішлі прэзерватывы!*
*Усе пабольш хацелі ўзяць,*
*І крыўда нат гучала:*
*— Чаму ўсяго на год іх пяць?*
*Ды мне і дзесяць мала!*
*З тае пары разброд*
*Сярод*
*Салдацкае суполкі:*
*Часцей салдаты цераз плот*
*Збягалі ў самаволкі.*
*У злосці капітан, як звер,*
*Бо збэсцілася рота.*
*Ён даў каманду: плот паўзверх*
*Абшыць калючым дротам.*
*Тады салдаты, што не ўздзіў,*
*Рабілі ў плоце дзіркі.*
*Падсцерагаў іх камандзір,*
*Як кажуць, браў за шкіркі.*
*Пры гэтым часць не мог салдат*
*Пакінуць і законна,*
*Бо на звальненне-праменад —*
*Таксама забарона.*
*Разлічваў пасля гэткіх мер*
*Ён, капітан, вядома,*
*Што адмаўляцьмуцца цяпер*
*Салдаты ад кандомаў.*
*Ды толькі марным быў спадзеў,*
*Не дасягнуў ён мэты.*
*Кандомы кожны мецЬ хацеў*
*Найболей, чым катлеты.*
*Так і не сходзіць з галавы*
*Загадка: "Што за дзіва?*
*Чаму сяржант і радавы*
*Бяруць прэзерватывы,*
*Калі ніводзін мой салдат*
*Не ходзіць за вароты?.."*

* * *

*Бо жонка жарсная зашмат*
*У камандзіра роты...*

# Улада спазнілася на 20 гадоў

...Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка пачаў умацоўваць беларускую мяжу з Расіяй. Яшчэ раней сказаў, што без мовы няма нацыі... Нарэшце! Праўда, пра апошняе еўрапейскім нацыям вядома ўжо больш за 200 гадоў. А ў Магілёве намеснік прэм'ер-міністра А.Тозік, наведваючы СШ №40, зрабіў заяву, якая была немагчыма цягам дваццацігадовага існавання гэтай улады: *"Валоданне роднай мовай — паказчык нашай культуры, самаідэнтыфікацыі як нацыі..."*

І колькі б улада ні казала, што падзеі ва Украіне тут ні пры чым, на самай справе — яшчэ як "пры чым"!

Але, скажуць некаторыя, дык пры чым жа мова да дзяржаўнай мяжы? Далёка не ўсе ведаюць, што мяжа краіны, народа вызначаецца па мове гэтага народа. Скажам, спрэс гучыць польскае слова, значыць, гэта тэрыторыя Польшчы. Скончылася польская мова, пачалася нямецкая — значыць, польская тэрыторыя скончылася, пачалася германская. **МОВА — ГЭТА ТЭРЫТОРЫЯ.** Там, дзе легла мяжа, прыкладам, паміж польскай і нямецкай мовамі, там і праведзена дзяржаўная мяжа паміж самімі дзяржавамі. Так паўсюдна.

А дзе ж мяжа паміж беларускай і рускай мовамі, якая аддзяляла б тэрыторыю Беларусі ад тэрыторыі Расіі? Яе няма. Руская мова, што пануе як у Расіі, так і ў Беларусі, дае Крамлю "законнае" права казаць, быццам Беларусь — гэта таксама "русский мир".

Абвяшчэнне дзяржаўнасці дзвюх моў на адной тэрыторыі, да чаго падштурхнуў Крэмль маладую і нявопытную тады "белорусскую" ўладу ў 1995 годзе, лічу поўным абсурдам. Дзяржаўнасць дзвюх моў у Беларусі здымае, адмаўляе само існаванне дзяржаўнай мяжы, бо, паводле заканадаўства, яе не можа быць паміж беларускай і рускай мовамі, а значыць, і краінамі з гэтымі мовамі. Больш за тое, няма і парытэту паміж мовамі ў Беларусі, бо спрэс у нас пануе руская.

А цяпер, паважаны чытач, скажы з аднаго разу, улічыўшы, што мова — гэта тэрыторыя: Беларусь з рускай мовай чыёй тэрыторыяй з'яўляецца — беларускай ці рускай? Вось чаму я кажу, што Крэмль, хочаш таго ці не, мае "законнае" права называць "Белоруссию" сваёй тэрыторыяй, "русским миром".

Што трэба зрабіць, каб Беларусь мела сапраўдную мяжу з Расіяй? Трэба "ўсталяваць" мяжу паміж беларускай і рускай мовамі. Як? Адмяніць дзяржаўнасць рускай мовы на тэрыторыі Беларусі. Тады ўзнікне сапраўдная дзяржаўная мяжа паміж нашай краінай, дзе б гучала беларуская мова, і Расіяй, дзе, натуральна, гучыць мова руская.

Я намаляваў, канечне, ідэальны варыянт, які можна было б ажыццявіць цягам прыкладна 40 год. У цяперашняй патавай беларускай сітуацыі пачынаць гэта рабіць значна складаней, чым 20 год таму. Дый хто гэта будзе рабіць? Вось вам сцэнка з жыцця. Стаю ў краме ля касы і чую заканчэнне размовы пакупніка з касірам: "...и будем учить язык". Пытаюся: "Вучыць беларускую мову?" Касір *(злосна):* "Здрасьте, уже пробовали навязать нам этот язык! Вы хотите, чтобы у нас было, как в Украине?" Вось так! Некаторыя грамадзяне лічаць, што вайна ў Беларусі пачнецца з-за... беларускай мовы! Яна, маўляў, у нашых бедах вінаватая...

А.Тозік, сказаўшы ў Магілёве: "На мой погляд, усе выкладчыкі без выключэння павінны валодаць беларускай мовай, і, калі ў класе ёсць хоць бы адзін вучань, які мае зносіны на беларускай, то і педагог павінен адказваць яму на роднай мове", чамусьці не сказаў, на якой жа мове ён сам, дзяржчыноўнік высокага класа, будзе размаўляць з А.Лукашэнкам і што збіраецца рабіць улада без беларускамоўнай адукацыі далей? Бо яго сур'ёзныя словы наконт таго, што дзяржслужбоўцы "павінны валодаць беларускай мовай" і адказваць людзям на іх роднай мове, пры адсутнасці ў краіне Беларусь беларускамоўнай адукацыі выклікаюць хіба што горкую ўсмешку, калі не больш...

Неяк пісаў, што небяспека незалежнасці Беларусі ідзе не з захаду, а з усходу. А тым часам "белорусская" ўлада ўмацоўвала заходнюю мяжу... Пісаў і аб тым, што беларуская мова і "русский мир", абвешчаны У.Пуціным для далейшага захопу тэрыторый з дапамогай рускай мовы, — рэчы несумяшчальныя. "Русский мир", такім чынам, ператвараецца ў "рускую вайну" супраць усяго нярускага, бо не можа ж "русский мир" існаваць на іншай, сваёй, мове!

Каманда А.Лукашэнкі пасля ўкраінскіх падзей, відавочна, спужалася. Гэта відаць хаця б па тым, як яна пачала мітусіцца і звяртацца да беларусаў з "правільнымі" словамі. Але ці разумее, што і з мовай, і з вырашэннем праблем з дзяржаўнай мяжой яна спазнілася на 20 гадоў? Над праблемнымі пытаннямі варта думаць раней, інакш можна завесці краіну ў безвыходны тупік.

**Алесь РАШЧЫНСКІ, грамадзянін Рэспублікі Беларусь.**

ФОТАФАКТ



## *750 баравікоў за адзін дзень*

Алег Касак з вёскі Забор'е Вілейскага раёна разам з сынам і дачкой сабралі каля 750 баравікоў. Месца збору Алег карэспандэнту Край.by не адкрыў. Сказаў толькі, што мае вялікі досвед у "ціхім паляванні" і добра ведае, дзе і якія грыбы можна збіраць.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

**Уважаемая редакция! От имени полутысячи военных пенсионеров брестского региона, подписавшихся под обращением, суть которого изложена в прилагаемом тексте, и письма которых были опубликованы в вашей газете с обещанием разобраться с возникшей ситуацией и дать ответ на страницах издания, прошу опубликовать данный материал.**

**Он написан на основе присланного из Министерства обороны РБ ответа на наши обращения и моих телефонных бесед с причастными к событиям структурами. В том числе и с Финансово-экономическим управлением МО РБ. Ибо конкретный ответ в масштабах страны мы так и не получили.**

**С уважением —**

**Игорь Николаевич НАБОЙЧЕНКО, офицер в отставке, г.Брест.**

# Искали правду в своем Отечестве...

В середине минувшего года в Беларуси прошло очередное повышение пенсий военным пенсионерам. Пенсии, как известно, время от времени повышают, и ничего необычного в этом нет. Однако в последнем случае это событие вызвало довольно большое непонимание особенностей этого повышения, вылившееся в массовое недовольство определенной категории военных пенсионеров. А именно, прапорщиков и младших офицеров запаса и в отставке. Суть в следующем.




Известно, что размер пенсии военного человека складывается из следующих составляющих: оклада по занимаемой должности, оплаты за воинское звание, за выслугу лет и компенсации продовольственного пайка. И, если следовало повышение пенсий, то всегда определялось, на сколько процентов. И на это количество процентов и производилось повышение для всех военных пенсионеров, но, естественно, на разные денежные величины. В зависимости от размеров указанных составляющих, с которыми офицер или прапорщик уходил в запас. Однако в нашем случае повышение пенсий осуществилось по неким иным принципам. И пенсии, к примеру, старших офицеров были увеличены на ощутимо большее число процентов, чем пенсии младших офицеров и прапорщиков. Ввиду того, что такое повышение проходило как-то кулуарно, никто никому ничего не объяснил, то после проведения собраний прапорщики и младшие офицеры отправили коллективные письма-обращения в столицу, включая Администрацию президента и Министерство обороны. Так сказать, "челобитные" президенту. Кстати, под таким заголовком в сентябре минувшего года в некоторых СМИ и были опубликованы материалы об этих обращениях к президенту Беларуси, как к главе государства и главнокомандующему Вооруженными силами республики о несправедливом начислении пенсий разным категориям военнослужащих. Кстати, обсуждалась эта тема и на страницах "Народной Воли".

В Бресте, отмечу, послания были отправлены от официально зарегистрированного Брестского областного общественного объединения "Союз прапорщиков, мичманов запаса".

Что же было далее? Как сказано, обращение было отправлено ряду адресатов, начиная от Администрации президента, Совета безопасности, Министерства обороны и так далее. Более того, министру обороны РБ генералу Жадобину вопросы были вручены лично на съезде Белорусского союза офицеров в ноябре минувшего года. Известно, что в стране установлены сроки, в течение которых обратившиеся должны получить ответ. Однако система неожиданно затормозила, лишь время от времени написавшие получали короткие сообщения, из которых следовало, что их "челобитная" путешествует из структуры в структуру. Видимо, в столице не были готовы прямо и конкретно ответить представителям своего народа.

Долгожданный ответ из Главного финансово-экономического управления Министерства обороны Республики Беларусь брестским авторам обращения был отправлен из Минска лишь 13 июня 2014 года, то есть "рожден" спустя 9 месяцев после его "зачатия". К сожалению, из семи страниц министерского текста трудно было понять, что же произошло на самом деле, что же повлекло столь существенную разницу процентного увеличения пенсий разным категориям военнослужащих — от 60% и более старшим офицерам и до 20% младшему звену. За разъяснениями автору этих строк пришлось обращаться в различные структуры "по команде" — от городского и областного военкоматов до непосредственно авторов ответа в упомянутое управление Министерства обороны. В ответе из МО пояснили, что судьбоносный Указ президента № 254-ДСП от 4 июня 2013 года "Об оплате труда государственных служащих и военнослужащих" имеет гриф "ДСП", то есть "для служебного пользования", что делает его недоступным для широких масс отставных военных. Но за разъяснениями можно обратиться в соответствующий отдел военкомата, в нашем случае Брестской области.

Итак, разъяснили мне, в подпункте 1.2 Указа №254-ДСП было определено понятие "должностной коэффициент" — величина, применяемая для определения должностных окладов государственных служащих и военнослужащих с учетом уровня их квалификации, степени ответственности и сложности выполняемых функций по занимаемым должностям. Стоит отметить, что эти самые "должностные коэффициенты" были установлены постановлением Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь от 17 июня 2013 года № 57-ДСП. То есть труд военнослужащих Вооруженных сил уравняли с трудом гражданских лиц. И без всякого учета тревожности, ненормированного и специфичности рабочего времени. Не говоря уже о том, что многим офицерам и прапорщикам пришлось работать в условиях сверхвысокочастотного излучения (СВЧ), с компонентами ракетного топлива (КРТ) и прочими "прелестями".

Разъясню для непосвященных. СВЧ-излучение — это излучение генераторов, подобное тому, что используется в СВЧ-печах для приготовления пищи, только гораздо большей мощности (до нескольких и более МегаВатт) и продолжительности (от нескольких до десятков часов). О КРТ — компонентах ракетного топлива. Само топливо — фактически авиационный керосин, а вот его окислитель представляет собой обычно смесь кислот, от паров которых можно получить смертельное поражение. Не говоря о попадании жидкости на тело. Ну и как сравнивать с условиями гражданского труда? Так вот, работа с этими и подобными "прелестями" в нашей армии, в отличие от других, никак не компенсировалась, и при расчете размера пенсии не учитывалась. А вот Минтруда и соцзащиты, абсолютно гражданская организация, решило этот вопрос одним росчерком пера. И сравнило ответственность, к примеру, несущих постоянное боевое дежурство под землей с ответственностью мастера, начальника цеха или завода и схожих по уровню должностей.

В телефонном разговоре с министерством, между прочим, мне было высказано, что о размере будущей пенсии надо было думать еще во время службы и добиваться больших должностных высот, чтобы потом не жаловаться на ее недостаточный уровень. Тем не менее в ответе указали, что предложения по повышению должностных коэффициентов по воинским должностям младшему офицерскому составу, прапорщикам и военнослужащим по контракту в настоящее время находятся на рассмотрении (опять же) Министерства труда и социальной защиты. Видимо, что-то лучшее и произойдет. Выборы-то на носу.

В обращении в столицу военными было задано еще много вопросов, но я остановился на главном.

Однако отмечу, не комментируя, два существенных момента.

Первый. Для исчисления пенсии военным учитываются их оклады по должности, по воинскому званию, надбавка за выслугу лет и денежная компенсация взамен продовольственного пайка. Ну и индексации. Так вот, стоимость продовольственного пайка с 2002 года и до недавнего времени составляет около 60 (шестидесяти) тысяч рублей в месяц. В то время как пайка сторожевой собаки — 108 тысяч.

Второй. В Законе РБ от 17.12. 1992 г. "О пенсионном обеспечении военнослужащих..." в пункте 16 указано, что минимальная пенсия военнослужащих должна составлять 150% минимальной пенсии, установленной в стране по возрасту. Не соответствует однако.

Кому и зачем нужно было это резкое "финансово-пенсионное" расслоение различных категорий военных пенсионеров, в пенсии которых при увольнении в запас уже была заложена и разница в званиях, должностях и прочее, можно только догадываться. А прямо не ответит никто.

**P.S.** *Для справки. Средняя пенсия прапорщиков и младших офицеров до недавнего повышения составляла около 2,5 миллиона рублей.*

НУ И НУ!

# *Какова цена вашего слова, господа чиновники?*

Эта история длится не один год. 15 лет жильцы нашего дома добивались ремонта кровли, прошли все инстанции. Но безрезультатно. Когда летом этого года крыша протекла, я позвонила на "Горячую линию" в облисполком, и мне ответили, что наш дом включен в титульный список капремонта, который начнется в июле этого года.

Но в июле ремонт не начался. Жильцы направили заявление-жалобу в облисполком. Пришел письменный ответ, что назначен тендер на подрядчика. А буквально на следующий день пришел еще один ответ, что уже повторный тендер ничего не дал: подрядчика, мол, не нашли.

Прошло некоторое время. Квартиру как заливало, так и заливает. В ЖЭУ составили акт, выплатили мизерную компенсацию, которой хватило лишь на два листа гипсокартона и две трубки обоев. Мы добавили и сделали повторный ремонт.

Недавно письменно нам сообщили, что наконец-то нашелся подрядчик и ему перечислены средства. Но за это время подорожали стройматериалы, и подрядчик отказался работать.

Дом наш старый, построен в шестидесятые годы прошлого века. Недавно свою квартиру мы вынуждены были приватизировать. Первый взнос составил 9 миллионов 800 тысяч рублей. Сейчас в нашу жировку каждый месяц вносят 180 тысяч "приватизационных" сверх коммунальных платежей. Куда идут эти деньги? Если мы платим за квартиру, то вправе рассчитывать, что хотя бы крыша не будет протекать. А у нас все капает и капает, и потолок прогнулся. А в отделе технадзора ЖРЭО говорят: ждите подрядчика. Хотя чему удивляться, если решить проблему с нашим домом обещали такие высокие чиновники, как заместитель председателя Витебского облисполкома Анатолий Диулин и министр ЖКХ Андрей Шорец!

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ, жилец кв.36 дома 15/2 по ул.Чехова в г.Витебске.**

